# НА ЎЗЛЁЦЕ ДНЯ

Валянціна Коўтун

Вершы і паэмы



## Песня

Радкоў лясная ўсхваляванасць,
Слоў распагоджаная даль.
Зноў растрывожаны світанак
Сваю расу траве аддаў.

Хусцінку выспелага лета
На голаў ціха апусці.
Што перадумана-апета,—
Не за плячыма —
у жыцці.

І постаць светлая Радзімы,
Мой новы дзень
на скразняку,—
Усё стаіць перад вачыма,
Падпёршы кулаком шчаку.

## Лісты да маці

### I

Вясна сваім цяплом атуліць
Бярозы светлую душу...
Я ліст вясновы да матулі
Імклівым раўчуком пішу.

Мой алавок звініць,
спявае,
Закрэслівае злыя дні,
І стрыжань-прамянёк хавае
У патаемнай глыбіні.

Здаецца ўсё такім нязвыклым
У вольным небе, на вадзе,
Над полымем шпачыных крыкаў
Зялёны дым угору йдзе.

Птушыны сум — гняздо радзімы —
З маленства ў сэрцы я нашу...
Пяром зялёнае шыпшыны
Я да матулі ліст пішу.

### II

У вырай словы адсылаю,
У ранішнюю чысціню,
З трывогай галаву схіляю,
А ці спазнаюць вышыню?

І зноў зямля мая сагрэта
Цяплом буслінага крыла.
Пашлі маёй матулі, лета,
Праменьчык добрага святла.

### III

А я заўжды ў чаканні, мама,
Зялёнай, гулкае вясны,
Калі ў красавіку растане
Снег перажытай сівізны.

Ляцяць імкліва між сінечы
Прызнання
словы-жураўлі,
І сэрца птушанём трапеча,
Дагнаць імкнецца весні клін.

Заўжды жыву ў чаканні, мама,
Што ў вёсцы нашай,
у цішы,
Барвяны красавіцкі ранак
Пралескаю прарос з душы.

З-пад снегу пырснулі пялёсткі
Святла,
любові,
дабраты...
Вясна здавалася б марознай,
Калі б, жаданая, не ты.



Зацвітаюць сосны,
зацвітаюць...
Жоўты пыл на сцежкі асыпаюць.
Дагараюць залатыя смолкі
На кары, парэпанай і колкай.

Вецер голле раніцой гайдае,
Сонца корань у зямлю пускае.
Чмель ляціць да белай аблачыны
І спявае веснавыя гімны.

Першацвет гарачы —
для настою.
Пырсне сок густы на травастоі,
Каб мацнелі кволыя сцяблінь...
Набяру тых шышачак для сына.

Хай казыча вусны
смак гаркавы,
Хай дужэе целам сын бялявы,
Казкі лесу ў сэрца западаюць...
Зацвітаюць сосны,
зацвітаюць...

⸻

Пад шызым ліставеем вераснёвым
Павольна,
асцярожная, іду.
У кошыку сваім,
нязвыкла новым,
Нясу туман сцюдзёны, як ваду.

І холадна далоням без прывычкі,
Хоць восень неспакойная гарыць.
А над імхом
падскокваюць лісічкі
Агеньчыкамі жоўтымі ў бары.

## Алундавы камень

У цэху — полымя дыханне.
Дрыжыць агонь,
Цвярдзее шкло,
Яго разцы балюча раняць,
Нібы жар-птушчына крыло.

Крыло!
Яно палётаў прагне.
Далонь мая, цвярдзейшай стань.
Хай выведзе алундаў камень
Жыцця упэўненую грань.

Хай камень выража узоры,
Якімі час мой шлях зашкліў,—
Агню круты, вірлівы нораў,
Яго тугія мазалі.

Малюнак абаўе, як церне.
Крышталь успыхне пад лязом.
Здаецца, зараз пырсне зерне
З дрыготкіх, цвёрдых каласоў.

Хай кроіць,
крэсліць,
рассякае
Будзённасць шэрую агонь.
Алундаў камень правярае
На вытрымку маю далонь.



Вішнёвы вецер над страхою,
Ружанец яблынь,—
сад цвіце...
А над залеташняй трухою
Крапіўнік малады ўгусцеў.

Вясна канчаецца...
І трэба ж! —
Трывожыць непагадзь зару.
У зазімка дзясну прарэжа
Да раніцы пякучы зуб.

Лістоты хруст...
Гаркавіць іней
На вуснах саду да відна.
Садоўнік ноч усю галіны
Бінтамі дыму ахінаў.

## Зялёная дарога

Адпачну я ў зялёнай дарозе,
Толькі неба,
зямля ды агні...
Толькі воблака белай бярозай
Лісце сыпле ў прыпол цішыні.

Дабягу да прыветнай павеці,
Расчыню я світання акно.
Сэрца раніцы,
гулкае,
б'ецца,
Разарвецца, здаецца, яно.

Толькі шчырая прага даверу,
Боль надзей апячэ мяне зноў,—
І бясконцай дарогі папера
Задрыжыць
пад радкамі слядоў.

## Сонца

«...Ад маіх родных Салаўёў, што на Рудзеншчыне, рукой падаць да вёскі Скрыль. Лясок ад яе — метраў некалькі... Наляцелі раз немцы з паліцаямі, сагналі ўсіх скрылёўцаў, чалавек так 75, у хату, і ўсіх — з агнём... Адзін толькі хлопчык і застаўся... У лесе, кажуць, загуляўся...»

*(З расказа Марыі Юльянаўны Гарашчук, настаўніцы Лемяшэвіцкай дзесяцігодкі, што на Піншчыне.)*

Ірдзелі промні на сасонцы,
А лес каціў перад сабой
Вясёлкавае кола сонца
Па сцежцы вузенькай, грыбной.

Раса скакала ў звонкіх спіцах,
Хлапчук змарыўся ад хады.
Прыліпла колкая ігліца
Да сонца мокрага тады.

А за малога, пэўна, маці
Ужо хвалюецца крыху.
З сасны у вёсцы шэры дзяцел
Збівае шышкі на страху.

А чмель лясны даўно шукае
У чарнабрыўцах рай-цянёк.

Цішэй, хлапчук,
                    цішэй...
Спыняе
Гарачы дзень таропкі крок.

Сынок малы,
Дарогу болю
Ты распазнаў, ты абмінуў...
Ужо апеклі дрэвы голле
Аб злыя языкі агню.

Ужо ляцяць ластаўчаняты,
Нібы жарынкі,
                    край сяла...
Матуля ў чорнай хустцы з хаты
Пайшла па прысаку,
                    пайшла...

І спіцы пырснулі барвова,
І кола паляцела ў дым.
Застыла постаць хлапчукова
Над сонцам спаленым сваім.

## Арабіны

Акно вясковай хаты
У ззянні арабін.
Сумёту бок бухматы
Падпёр настылы тын.

Мароз,
як дзяцел сіні,
Да шыбіны прыпаў,
Каб тыя арабіны
Здзяўбці,—
а то прапаў!

Уклеіў носік сын мой
У сіняе акно:
Святлісты арабінавы
Чакае цуд, відно.

Гарыць галінка кволая,
Бялее снегу скронь...
Майго дзяцінства
полымя,
Зімы маёй
агонь.



Вачэй усмешку не схаваю,
Слязу да сэрца прытулю,
Сяброў няпроста адкрываю,
Сустрэчы шчырыя люблю.

Хто хлебам-соллю зноў сустрэне,
Хто крыўду кіне ў вочы мне,
А хто дык сонечным праменнем
Перад вачыма калыхне!..

## Апошні паром

I

Эх, сенакос!
Густым настоем
Ты захмяліць не прамінуў,
Паромшчык хуткасці падвоіў,
Паром плячамі варухнуў.

У цётак позіркі ці пырскі?!
Абсыплюць з ног да галавы.
На тросе ветрык сіні вісне,
Туман плыве на паплавы.

На бераг ранак лебядзіны
З ракі прагоніць сіняву...
Вось-вось
пад косы лета
кіне
Вайна гарачую траву.

II

Не адцвіце, не адпалае...
У непакошаных лугах
Дыміць атава маладая,
А бераг попелам прапах.

І на гарачую лістоту
Тае ваеннай паласы

Упаў шчымлівы і гаротны
Вугольчык матчынай слязы.

Ці то ў зарэчных лугавінах,
На беразе ці на чаўне
Касцоў адменных,
бацьку й сына,
Касілі кулі на вайне.

Азяблым дымам самакруткі
Суцішана туман гайдаў.
Паром асірацелы крута
Штурхала да лазы вада.

Чакаць адно,
чакаць, як праўду,
У хвілю мужную — набат...
І вось трывожна:
— Пераправа!
Ваду ўзвірыла, бы снарад.

Хоць спіну рэзалі нясцерпна
Калючых гусеніц вуглы,
Хаця ваду бакамі чэрпаў,—
Да берага паром даплыў!

Хаця смылелі ў ім асколкі,
І на вадзе сем раз згараў,
Чакаў, калі на бераг коўзкі,
Як хваля, выплесне:
— Ура!..

III

Эх, сенакос!
Густым настоем

Ты захмяліць не прамінуў.
Паромшчык хуткасці падвоіў,
Паром плячамі варухнуў.

У памяці — туман гарачы,
Нібыта толькі ўчора бой
За пераправу быў, няйначай,
На лініі перадавой.

Расы сінеюць вачаняты
З-пад траў апаленых брыва.
Вяртаюцца дамоў салдаты
Да касавіцы,
 да жніва.

Быў вецер золкі пад рукою
Тугі і мокры, бы канат.
Балюча так і неспакойна
Было на сэрцах у салдат.

На хваляў вострыя пагоркі
Паром пакосны напłываў.
І да пляча, як гімнасцёрка,
Прыліпла цёплая трава.

## А Прыпяць не спыніць...

(Пінск — 1240 год)

Паэма

Здаецца, ноч і не была.
І цяжкай, змучанай хадою
З балота раніца ішла
Ў суседстве даўнішнім з бядою.

У плечы ёй царкоўны звон
Усё біў і біў...
І з недавер'ем
Ступалі ногі, як праз сон,
У твань і ў гнёзды з мяккім пер'ем.

Чаўны зашыліся ў кусты
І бераг выелі да гліны...
І быў туман густы-густы,
Калі слабыя птушкі гінуць.

А звон стагнаў,
нясцерпны звон,
Такі, напэўна, мёртвых будзіць.
Пачулі ў ім і боль і стогн,
Сагнуўшыся над броснай,
людзі!

А звон трывожыў зноў і зноў...
О гора вам, браты, о гора!
Склікаў на сеч сваіх сыноў
Сярод балот узняты горад.

I

Чаўны ля берага плылі...
Грабцы паціху, нібы ўпотай,
Высока песню завялі,
Каб не параніць слоў чаротам.

Каб не трывожыць іх цяпер,
Каб не расла туга на вёсцы,
Дрымучую траву аер
Стаіла песня ў падгалосцы.

Зязюля,
вылеці здаля!
(Ці ты жыццё накукавала?)
Ды песня птушку прыняла,
Нібы ў гняздо,
ў запеў схавала.

Зязюля шэрая, маўчы,
Над намі крыламі панікні,
Бо ў песню прыляцеў з начы
Крумкач стары
і грозна крыкнуў.

Бо сэрца боль,
туга ўзялі,
Калі праз песню нечакана
Рачныя хвалі паплылі,
Спаласаваныя мячамі.

Каля муроў,
ля пінскіх сцен
Шчапой рассыпаліся вёслы,
Грабцы ўздымалі светлы дзень
На спрацаваных косах вострых.

II

Касінеры,
Уперад, брацці,
Мы зброю — вышай...
Як мазалі зямліцы-маці,
Наўкол узвышшы.
Касою сонца ўскінем,
Потым —
да смерці ў госці.
Пакінем на зямлі гаротнай
Крывавы водціск.
Касінеры!
Сэрца сёння не беражыце.
Ляцяць на нас чужыя коні
У чорным жыце.
У дыме воблакі,
як стрэхі,
Прасторы — насцеж.
Касінеры!
Гулкім рэхам
Гукніце шчасце.

III

Гудзела сеч —
і палеглі
Палешукі!..
Быў мяккі бераг.
Іх пальцы моцныя ўраслі
У зямлю карэннямі аеру.

Вось бацька з сынам моцна спіць...
Цяпер іх ад зямлі гаротнай
Не адарваць, не аддзяліць —
Праз іх прайшла вясной лістота.

А хто ўцалеў,
хто яшчэ мог
Трымаць гарачы меч рукою,
Пакінуў родны свой парог,
Пайшоў ад хаты над ракою.

У лес пайшлі расці і жыць
За сынам сын
і брат за братам,
Каб там над ханам учыніць
Між дрэў у гушчары расплату.

IV

Адна сляза,
Адна дарога,
Адно бяздонне для людзей...
Іх столькі мала,
столькі многа
Жыло для праўды без надзей.
Адно славянскае прадвесне
Дало карэнне, каб расці,
Каб той мужыцкай, простай песні
Між вербалозаў расцвісці.
Каб слова выспела з любоўю,
Пад звон калосся,
голля хруст,
Яшчэ у сэрцы з першай кроўю,
Яшчэ ў зародку —
Беларусь.

V

Зямля мая,
задумлівая, белая,
Без цябе засохлі б ручаі.

Воблакі, што сонца абагрэла,
Рассыпацца ў попел пачалі б.

Ў гнёздах, што бахмацяцца на стрэхах,
Не ўздыхалі б сцішана буслы,
Баравіны вымерлі б без рэха,
Скамянелі без зярнят палі.

Не было б, мой белы край, спагады,
Хлеба і тваёй жывой вады,
Нават сэрцы, чуйныя да праўды,
Ачарсцвелі б у людзей тады.

VI

У нашых дрэў нязломны нораў.
Між голля выспеў неспакой.
Зноў хан ідзе,
спяшае вораг
З душой, бы ятаган,
крывой.

З зямлі яшчэ праб'ецца ў вёсны
З іглiцай цёплаю храсток,
А покуль што аселі сосны
Па грудзі самыя ў пясок.

Тут шлях для ворагаў канчаўся —
Ажыны ногі абаўюць,
І нават корч стары прыўзняўся,
Каб кінуць ім у твар змяю.

VII

Зноў сеч гудзе...
Плячо ў плячо —

Стаялі дрэвы ў самым пекле.
І вось рука з крывым мячом
Галіну ў ясеня адсекла.
Ён застагнаў.
Дубы плылі
Далонямі уніз, як цені.
І так адчулі пах крыві
Лісты, і травы, і карэнне.
Гулі у коней капыты,
Сукі успыхвалі, як свечы.
На грывы клаліся лісты,
Галінне падала на плечы.
Як птушка, летні дзень зачах,
Зляцеў за лес, як шэры жораў,
Быў попел у яго вачах —
О гора вам, браты, о гора...

Іржалі коні на ляту,
Губляліся у дыме чорным,
Упала сонца у ваду —
Дзіда̀ пацэліла у горла.

VIII

Адступаюць паволі,
адно за адным,
У зямлю уваходзяць,
адно за адным,
Нібы сон у начах,
і далёка, як дым...
Горда гінулі дрэвы у краі маім.
Секлі іх па руках,
крыўды кідалі ў твар.
З птушанятамі падалі
дрэвы ў пажар.

Колькі гнёздаў стагоддзі
развеялі ў дым...
Мужна гінулі дрэвы
у краі маім.
Запазніліся...
Хопіць,
пара і на скон!
Толькі голле расце,
зноўку чуецца звон,
Неадольныя ўсталі,
адно за адным,
Прамяністыя дрэвы
у краі маім.
Ўсё іх болей і болей.
Ад весніх надзей
Зелянее зямля.
Песня ў сэрцах людзей,
І гайдаюць аблокі,
адно за адным,
Тыя дрэвы,
што выраслі ў краі маім.

## IX

Быў час,
і моцныя далоні
Ламалі шыі ў ханскіх коней.
То сіл няма,
то зброі мала —
На дол нас, ясеняў, кідала.

Цякла для ўсіх адна рака,
Была адна, з мячом, рука,
І на усіх было, здаецца,
Адно, параненае, сэрца.

Мы не скарыліся ў той час.
Ці ўнукі памятаюць нас?
Ці ведаюць унукі сёння,
Як мы губілі ханскіх коней?

Як нам падмогі не хапала,
Як нас пад капыты кідала?..
І нават сонца над зямлёй
Цвіло,
        набраклае крывёй.

X

Загналі у лясы...
                Было... загналі.
На паўдарозе людзі не прысталі,
Пайшлі ў карэнне, травы і галлё,
Між дрэў зрабілі новае жыллё.
І ўвысь ішлі, і ўглыб —
                        куды не цесна,
Адна была, свая,
                        з лістоты,
                                песня.
Верацяном звінела ў голлях сонца,
Як нітка, дні цягнуліся бясконца,
Хоць біў струмень з-пад кораня
                                        пазнання,
Маланкам злым здзіўляліся сяляне.
Успыхвала агнём кудзеля хмар,
І плыў пажар з дажджом,
                        гудзеў пажар,
Аж покуль каласы дабра паспелі
І людзі хмары косамі пасеклі.
За зерне буйнае і за святую волю
Сваю зямлю любілі ўсе да болю,
Ад родных хат упрочкі не ўцякалі.

Драпежніцкія рукі адсякалі.
Змагаліся
і гінулі ў баях,
Яснеў пад сонцам перамогі шлях,
А час — для нас...
А Прыпяць не спыніць...
«Ой да латàці, божа, дай дажыць».

## Чарацінка чакання

Паэма

### І. Каска пад ялінай

Не прыдумалі, не прыснілі,
Сіні верас у голаў прасілі.
У лістоты замглёных вачах
Пацалунак слязой не зачах.

Словы радасці і кахання
Дол зялёны шчымліва раняць.
Ціха раніца за сяло
Залатою ляціць пчалой.

Зачакалася маці сына.
Салавей маўчыць у руцэ.
Броваў хлопцавых аблачына
На дзявочай ляжыць шчацэ.



Верас просіць адно:
— Чакай!
Рэха туліцца ў гнёзды:
— Чакаю!
Франтавога агню рака
Берагі ў Беларусі шукае.

І на хвалях тае ракі
Мар юначых згараюць вёслы.
Пасталелі ўраз юнакі,
Без сыноў пасівелі вёскі.

Рэха возьмецца на прыцэл.
Дол зялёны асколкам параніць...
Салавей маўчыць у руцэ:
На грымотных дарогах
каханне.



Маўчыш ты, раніца, зацята.
Да хмызнякоў — падаць рукой,
І бомбаю ляжыць блакада
У соннай вёскі пад шчакой.

Барвовы выбух у імгненне
Расколе неба над сялом.
Апошні анямелы певень
Асколак студзіць пад крылом.

Блакада —
куля даганяе.
Блакада —
з хмары самалёт
Гарачым градам прабівае
Плячо туману навылёт.

Над мокрым ад расы парогам
Аўчарак касцянее брэх.
Блакады чорная дарога
Вядзе ў лясы з-пад цёплых стрэх.



Снарад у лузе, дзе струменьчык
З крыніцы мкнецца ў росны лог,
Перад дзяўчынаю укленчыў,
Сцяжынку вырваўшы з-пад ног.

Схіляе над дзяўчынай нізка
Бяроза
        боль галін сваіх,
Для ненароджаных калыскі
Звіваюць з промняў салаўі.

Абвуглілі лясное ранне
У лузе чорныя агні.
Паэма
      вернага
              чакання,
Ёй твар лістотай захіні.



Драбок балючае здагадкі
Ў далоньцы рэха панясе
Па той далёкай,
              па салдацкай,
Па незагойнай паласе.
— Чакай! —
              праз полымя нясецца,
На вуснах цепліцца:



*Не трывожце салдат,*
                    *салаўі,*
Яны скошаны ў першым баі.
Вусны ўсмешак яшчэ не забылі,
Пацалункі на іх не астылі.
Сее зерне агню аўтамат.
Цёпла ружам ля сэрцаў салдат.
А над кватамі бою дрыжыць
Салаўіная песня:
— Дажыць!..

*Не трывожце салдат,*
*салаўі,*
Яны скошаны ў першым баі.
Шынялёк чабарамі прапах,
І сінеча нябёс — у вачах.
Не заплача, не закрычыць
Салаўіная песня:
— Дажыць...
*Не трывожце салдат,*
*салаўі,*
Яны скошаны ў першым баі.
Босы след сваю сцежку шукае.
— Ты чакаеш?
— Каханы, чакаю...
На пажарышчах жар не ачах.
Бой салдата нясе на плячах,
І сястрыца траншэяй бяжыць...
Салаўіная песня:
— Дажыць!..



Яшчэ ў руцэ граната сцята,
Яшчэ не скончан першы бой.
Да палявога медсанбата
Паўдня дарогі агнявой.

Падкошаная, з каляіны
Бярозка просіцца ўгару.
Гарачы выбух гулка кінуў
На мох яршысты медсястру.

У грукаце і дыме смерча
Адплаты доўга не чакаць,
Калі граната каля сэрца,
Калі ўжо вырвана чака.

З самотнай каскі
пад ялінай
Яшчэ крумкач крыві не піў.
На шыю свастыкі змяінай
Дзень босай пяткай наступіў.

— Чакай...
Хаця дрыжыць гранатай сэрца,
І з сонца вырвана чака.
— Чакай,—
Калі ў баі пякельным
Не засталося сіл чакаць
Твой смех, і цёплыя калені,
І вуснаў смутную пячаць.
Перад каханнем — на паверцы
Я і тады цябе чакаў,
Калі сваёй салдацкай смерцю
Ланцуг варожы рассякаў...

Паэма вернага чакання,
Салдата ты не абміні,
На развярэджаныя раны
Шынель гранітны нацягні.

### II. Школьны вальс

Што глядзіш гэтак сумна,
маці,
З-пад брыва ахалодых начэй?
На апаленай хрусткай карце
Зелянеюць паўшар'і вачэй.
Гэта сэрца планеты няспынна
З вокан школьных глядзіць у сусвет:
Пад якою далёкай ялінай
Ты губляешся, сынаў след?

З кім ты зараз, сынок, гаворыш,
З кім сяброўку вядзеш, сынок?!
«Школьны вальс», бы салдат у дазоры,
Прыпыніў каля вокнаў крок...

* * *

На зялёнай галінцы жыцця
Ўжо набухлі пупышкі вёсен.
Штык бязлітасна неба працяў
Над вяршынькамі сініх сосен.

Аўтаматнай чаргою вайна
Пагартае на парце падручнік.
У настаўніцы — сівізна,
Сівізна — у бязвусага вучня.

Чорнай крэйдай накрэсліць дым
Слоў балючых на сцежках нямала.
У кастры дагараюць адным
Томік Гётэ і вершы Купалы.

* * *

Ты, матуля, мяне прычакаеш
На дзянніцы вішнёвай вясны.
Словам матчыным,
болем адчайным
Загавораны я ад вайны.

Безыменных вышыняў дзоты...
Шызы быльнік прагорклых начэй...
Бой задушны з-пад важкіх ботаў
Дыму хвост па зямлі валачэ.

Загавораны я ад асколкаў.
Гром гранаты — у кулаку.
У шчаціністы попел пагорка
Уціскае атака шчаку.
Палягла франтавая сябрына.
Лівень смерці пагорак сячэ.
Прабівае пілотку травіна,
Не падняць ад зямлі вачэй.
Пошчак бою.
Агонь зацяты,
Агрызаецца кулямёт.
Не скрышыла твая граната,
Мой сыночак, праклятый дзот.
Не скрышыла, не даляцела...
Да бяссмерця — адзін рывок,
Прабівае чарга ашалела
Яваровы твой шынялёк.



Хто прыходзіў у матчыну хату,
Пад асонне сівых бяроз?
Хто старэнькай шынель салдата
З тых крывавых акопаў прынёс?

У акно зазіраюць ночы,
Туманом дымяць паплавы,
Сын для маці —
заўсёды хлопчык,
Сын для маці —
заўсёды жывы.

У крушыны гаротнай спытайце:
Хто ж у хату прыходзіў здалёк?..
На збалелых руках у маці
Сына грэецца шынялёк.



Баю-бай, шынялёк, баю-бай.
Ціха ў хаце сваёй спачывай...

Хай плячэй яго гоністы сажань
У цяпло тваё пругка ляжа.
Хай прысняць рукавы дзве рукі
І святлістых вачэй васількі.

Баю-бай, шынялёк, баю-бай.
Ціха ў хаце сваёй спачывай...

Калі ноччу абложнай прысніцца
Агнявы градабой навальніцы,
Абаўюць бліскавіц рамяні —
Ты сыночка крысом захіні!

Баю-бай, шынялёк, баю-бай.
Ціха ў хаце сваёй спачывай...

Твой мяшэчак збяру па патрэбе —
Соль світання, як слёзы, на хлебе.
Пакладу туды нітку з іголкай,
Зашывай сабе след ад асколка...

Зашывай...
Захінай...
Саграваў...
Баю-бай, шынялёк, баю-бай.



Пагорка стыне гімнасцёрка
Пад шызаю скразной расой.
На белым абеліску зорка

Ірдзіцца матчынай слязой.
Прыхіліць голаў абеліска
Радзіма-маці да грудзей.
А «Школьны вальс» з паляны блізкай
Лясныя кветкі пакладзе.
На зорку паглядзі, вандроўнік,
Змахні слязу,
Спяшай далей.
Хай глобусам тугая поўня
Да золку стыне на стале.
На парту у прыціхлым класе
Падручнік ранак пакладзе.
Віруй, плыві па «Школьным вальсе»,
Ґадоў святло, як па вадзе.
Пах канапляны носіць вецер,
Разбудзіць перапёлка вас.
Па хвалях траў, па цёплым вецці
Плыві, кружыся, «Школьны вальс».

### III. Полымя лістабою

Шэры ліст,
Шэры дзень,
Шэры боль...
Лістапад асыпаецца ў бой:
Ападае на плечы байцоў,
На штыкоў агнявое асцё.
Ліст барвовы ляціць на павекі,
Жоўты ліст — медалём на грудзях.
З-пад густых лістападаў веку
Вочы паўшых на нас глядзяць.

Схаладнела ў чаканні хата.
Лістапады — сыны удоў.
Ґулка б'ецца сэрца салдата
У грудзях франтавых гарадоў.

* * *

Выпраўляеш і бацьку, і сына,
Па дарозе чахне трава.
Не ўдава ты яшчэ, Радзіма,
Ды баліць сівізной галава...

* * *

Лясная цішыня, што рана —
Расу далонню не крані.
Да хрусту сціснулі паляну
Ласіных сцежак рамяні.

Далёка фронт,
Сябры далёка...
Туман між сосен стог звяршыў.
Цікуе ноч савіным вокам
За сцежкаю ў начной глушы.

У аўтамаце — ні патрона.
На жылістых дратах ажын,
Аглушаны і беспрытомны,
Салдат каторы дзень ляжыць.

Глыбокі тыл — з лясною картай,
З трафейнай зброяй на плячы.
Самотны ветах,
Бытта варта
Тае трывожнае начы.

* * *

Дзе рэха песні партызанскай
Даспела ў жоўтых жалудах,
Асцісты хлеб вайны сялянскай

Гарачым багуном прапах.
Спяшалася шарготкай сцежкай
Ты, песня,
у лес з жытнёвых ніў.
Хмурынку,
нібы сыраежку,
У соснах вецер разламіў.
А перад боем,
на прывале,
На вецце хлопцы палеглі,
І словы кулямі ўганялі
Яны ў халодныя ствалы.
Гармонік хлопцам гоіць раны,
У нетры спудзіўшы кручко.
Апоўнач песня партызана
Нацягне ватнік на плячо.



На бярозы і сосны
Ліставеі ляцяць,
Партызанскія сёстры
Каля сцежак стаяць.
І з балотнай блакады
Партызанскі атрад
Па імшарах гарбатых
Адступае назад.
За пушчанскай дарогай
Драч дзярэцца —
Не збоч!
І мядзведжай бярлогай
Тут блакадная ноч.
Чахне вогнішча ў росах,
Ні цяпла, ні агню.
Плечы белай бярозы
Даўкі кашаль сагнуў.



Разведчык-месяц на прыцэле
Трымае жоўтае акно.
Фашысты гэтак асмялелі,
Што вартавога не відно.
Стаіўшыся, лясная кара
Цікуе камендацкі дом.
І ноч скуранкай камісара
Напята скрыпне за вуглом.
«Аўроры» водгул над вайною —
Кастрычніка святкуем дзень!
Перад трывожнаю сцяною —
За крокам крок,
за ценем цень.
Патрушчыць цішыню граната,
Успыхне полымя ўгары,
Пастрочыць кулямёт зацята
Адно, жаданае:
— Прарыў!..



Дыміць між елак на гары
Баравіковая паляна.
На плечах вынес ты, прарыў,
Параненага партызана.

І апусціў на хрусткі мох,
На цёплы ватнік асцярожна:
Чаму ж ты ўберагчы не змог
Ад хіжавокіх куль варожых?

Дагэтуль варту я нясу
Над ім, як маці над калыскай.
...Гарматны гул атрос расу —

Пярэдні край да лесу блізка.
На ўзлобак высахлы вайны
Зацерушыла скрозь іглiцу.
Туманам,
Голкаю сасны,
Лісцём
ад куль не засланіцца.



Прарыў! —
сардэчны боль,
надрыў.
Прарыў! —
і сум душу агорне.
Гудзелі полымна вятры
У кожным лесе, як у горне.
Над партызанам згусны дым
Развеюць крылы песні спетай —
Аблокі светлыя над ім
І подых маладога лета.
А праз гарачы лістабой
Імчацца скразнякоў алені.
Глыбокі тыл...
Зацяты бой
Шляхі расчысціць Наступленню.



Сэрца ўдары глухія...
Начамі
Асыпаецца сад. І чутно:
Кожны ўдар асцярожны,
адчайны,
Як прыглушаны стук
у акно.

Кожны ўдар — гэта крокі да хаты.
Кропля месяца — болю рака.
І гаркавай антонаўкай раптам
Ва ўспаміны ударыць:
— Чакай!..
Як калісьці, дрыготкае слова
Чуйна туліцца да грудзей.
На ўдовіны плечы сурова
Рукі цяжкія ноч пакладзе.
З дрэва ліст, бы трохкутнік,
сарвецца
У далоні твае, грозны год.
Яблык падае —
падае сэрца,
Прабівае сны навылёт.



Спі, мой хлопчык,
Не бойся, не слухай...
Гэта недзе між сосен глухіх
Мільганула ліса-рыжуха,
Падпаліўшы балюча імхі.

Горкі пах чабаровы трывожыць.
Зырка вогнішча часу гарыць.
Гэта мой успамін трыножыць
Партызанскія коні ў бары.

Ты пад шчочку падсунь далоні —
Гэта проста, мой сын, здалёк
Далятае ў твой сон сягоння
Партызанскіх кастроў вугалёк.

Гэта ціха ключом адмыкае
Нашы дзверы, нібы рука,

Слова болю,
Слова адчаю,
Слова вернасці мужнай:
— Чакай!

### IV. Памяць сівізны

У дарозе рана зажывае,
Калі верыць мудрасці, хутчэй.
Дамоў!
Як мячык, узлятае
Мяшок над жорнамі плячэй.

Ядлоўцу сохне гімнасцёрка.
Чаго ірвецца, адгадай,
З-пад ног сцяжына перапёлкай,
Нібы адводзіць ад гнязда.
Гняздо за тым ляском, за полем,
Дзе руні зелянявы клін.
Сасна халоднай шышкай коле
Юнацтва даўняга ўспамін.
За гэтым вось ляском ласіным
(Што ж поле не ўзарана?),
За...
Срабрысты жаўранак радзімы
Вісіць у небе, як сляза.

Сляза, што высахнуць не хоча
Над лесам, полем і ракой,
І над салдатам, што за вочы
Схапіўся шорсткаю рукой.

Над спаленым бацькоўскім домам,
Над попелам сівой зямлі.
Пагорбіўся кашчавы комін —
Адзіны сведка той зімы.



Траву сумётаў вецер не пакосіць,
У студні студзень кашаль праглынуў.
Так хочацца зіме ў згарэлай вёсцы
Цвікамі ледзяшоў прабіць сцяну.
Сцяна,
сцяна...
Ты сум і гнеў...
Ты — помнік
І памяць набалелая ў вяках.

У руцэ сваёй
трымае чорны комін
Маленькую далоньку хлапчука.

Сняжынкі — над астылым папялішчам,
Над садам,
у Мядзведзіцы ў каўшы.
І крохкія галінкі чорных вішань
Узносяць, нібы ў клятве, ледзяшы.

Ці смачныя вугольчыкі цукерак,
Ці соладка табе ад іх, хлапчук?
Завеі белай вузлаваты нерат
Аблытаў рукі, вачаняты, чуб.
Пра маці не пытаюся — баюся! —
Тут папялішчы вёсак і садоў.
Ідзе па анямелай Беларусі
Хлапчук пяці, ну, мо сямі гадоў.
Ідзе праз спапялелыя Хатыні,
Плячом штурхае вецер хлапчука;
Ты не спыняйся,
не замерзні, сыне,
Ты з фронту бацьку, хлопчык,
пачакай,

Каго з сустрэчных, можа, напаткаеш,
Сям'я другая знойдзецца табе,
Калі, маленькі,
непагадзь ліхая
Цябе з прамой дарогі не саб'е.



Зімы, зімы...
Пякучыя зімы...
На расстайных дарогах крыжы.
Аж да мая на сцежках Радзімы
Снег абвуглены даляжыць.

На ўцалелых галінках вішань
Пад аснежаным ветрам скразным
Навастрыліся вушкі пупышак,
Каб пачуць надыход вясны.

У прыродзе расце прадчуванне
Перамен прычаканых тых...
Перамога гарыць світаннем
На пазіцыях агнявых.



Лета...
Восень...
Зіма...
Вясна...
Пятай ты пасля іх,
Вайна...
Ноч стукае паціху ў дзверы.
Пякуць асколкі сівізны.
Як пальцы сёстраў міласэрных,

На пульсе — успамінаў дні.
А пульс трывожным метраномам
Адно адлічвае:
— Чакай!
Над страчаным бацькоўскім домам
Барвовых воблакаў рака.



Ці раніцай,
Ці на змярканні,
Сястра, прыйдзі,
дапамажы.
Ты боль салдацкага чакання
Бінтом
тугім
перавяжы.

Ты пакладзі бінты
на плечы,
Няхай уявіць франтавік,
Што чубік залаты хлапечы
Ласкава да пляча прынік.

Кладзі бінты яму на грудзі,
Няхай прысніць парой начной,
Нібыта жонка яго будзіць
Пакосным днём
перад вайной.

Няхай уявіць, што праменне
На сэрца радасцю лягло.
Вайны
хоць на адно імгненне —
Каб не было,
каб не было...

## V. Словы на сцяне

«Ура» з дарог і чуйных сцежак,
«Ура» — на кладках і мастах.
«Ура» кароткіх перабежак
Паколе ногі на дратах.

Пакіне попелу пячаці
На скронях у салдат «ура».
Салдацкі крык, бы крык дзіцяці,
Ў агні канцлагераў згараў.

Салдацкі боль у ім застыне...
Гняздо грачынае вясны
«Ура» штыком сваім закіне
На чорных печаў каміны.

«Ура» — яго ў баі параняць...
Але з баракаў, бы рака,
Не чалавека — цень дыхання
«Ура» панесла на руках.

⬥—⬥

Хто ты, бацька ці сын,
муж ці брат,
Той, хто з полымя выйшаў?
— Салдат...
Перад боем прымосціш
траву,
Як пілотку,
пад галаву.
Толькі тут, пад Берлінам,
не спіцца,
У атакі шынель
дыміцца.

Толькі тут, пад Берлінам,
спакой,
Як гранаты чака
пад рукой.

⟡—⟡

Трохкутніка маўклівы вырак,
Клін жураўлінай цішыні.
Радкоў паплыў гарачы вырай
У паштовым воблаку вайны.
Ён плыў да роднай Беларусі,
Тых слоў салдацкіх светлы клін.
І ранак —
ацалелы бусел —
Крылом пагойдваў прыпамін.
Да бою — лічана хвіліна,
Плячо ў акоп уцісні, май.
Прыпала спеўная травіна
Да слова звонкага:
— Чакай!..
— Чакай!..
І крокі карагодзяць.
— Чакай! —
Салдат дамоўку сніць.
Шукаюць кулі — не знаходзяць
Яго ў шчацінісгым агні.
На вуснах дым, сухі і горкі.
У сонца вырвана чака.
Паперу, нібы гімнасцёрку,
Асколкамі сячэ:
— Чакай!

⟡—⟡

Гадоў не перасмяглі вусны,
На памяць не асела тхло.

У чыстым небе Беларусі
Трохкутніка гарыць крыло.



У Берліне над вузкімі вулкамі
Неба шэрае раніцой.
Дымных выбухаў сцены гулкія
Важка падалі на байцоў.

Над Берлінам
аблокі белыя
Паласкала ў агні вайна.
Да параненага падбегла
Шустра,
хустку сарваўшы,
вясна.
Хто ты: Йванко, Іван ці Янка?
Як завешся — Шата, Сабір?..
Сын рабочы і сын сялянскі
Засланяюць сабою мір.

У бярлогу па попелу свастык
Ранак шэрым паўзе ваўком.
Дабягае салдацік віхрасты
Да рэйхстага адным рыўком.



Бой прыціхне...
Прыляжа дарога...
Нечакана сляза задрыжыць.
Песня радасці:
— Перамога! —
У пілотцы да неба ўзляціць.
Аўтамат над сабою падыме,

Аблачынку салютам праб'е...
Зачакалася дома Радзіма,
Франтавік, аж да болю цябе.
Першым жытам юнее поле.
Звеславалі чаўны раку.
Чарацінка чакання коле
Перамогі салдацкай шчаку.
Асцярожна...
Праменьчык світання
З непрывычкі ў руцэ не скрышы.
На рэйхстагу Паэму Чакання
Напішы, франтавік, напішы.
На сцяне той — жыцця франтавога
І імя твайго вечны агонь.
Напішы, ветэран, Перамогу —
Смерць і Полымя
Грозных Пагонь —
Так, каб кожнаю літарай дымнай
Запавет твой гады прашыў,
Аб магутнай
і неабдымнай,
Аб Радзіме сваёй
напішы!

## Трыпціх

### I. Ручнік з пеўнямі

Дзяды на досвітку ўставалі,
Твар выціралі ручніком,
А пеўні гімны дню спявалі,
Піў ранак туманы нагбом.

Быў ранак свежы, неастылы.
У вачах птушыных біўся крык,—
І ўпалі крылы,
ўпалі крылы
Гарачым пер'ем на ручнік.

Узор запомніўся з калыскі,
З вясною —
пер'е заадно.
У руках бабуліных калісьці
Цвіло пад сонцам палатно.

Асірацелым птахам кружыць
Той успамін —
Душа баліць.
Бяру ручнік,—
Ці можна кужаль
Слязой шчаслівай адбяліць?..

### II. Песня

Туман начлежыць ля сяла,
І ціхі ветах вокнам сніцца.

Бабуля песню пачала,—
Трывожна войкнулі масніцы.

Спеў узыходзіў з добрых дзён,
Дзе маладосць і шчасце блізка,
Дзе хата, светлая, як лён,
З буслíхай белай над калыскай.

Дзе над прыцішанай вадой
Схіліўся журавель цыбаты,
Дзе з птушанём малым гняздо
Дрыжыць пад сэрцам цёплай хаты.

### III. Кросны

У водмаладзь,
Назад у вёсны
Спяшаюся, як позні госць,
Рыпяць старэчай скрухай кросны,
Што мне саткалі маладосць.

Узор вяртаю з летуценняў,
Як сарамяжлівасць сваю,—
З гарачых сонцавых праменняў
Палоску ўзору аддаю.

Блакіт кідае непакорна
У другую нітку сінь сваю...
А трэцяя... хай будзе чорнай,
З палын-травы яе саўю.

Стуманены, як пер'е, колер
Вазьму з туману даўніны.
Хай выбеліць адчайным болем
Тугую нітку сум начны.

Знаёма мне прывяласць лета,
Зялёны грай вазьму ў вясны...
Узор засмуціць напаследак —
Успыхне нітка сівізны...

## Вогнішча

Быў ціхі вечар і ласкавы...
На ўзмежку восеньскіх палёў,
Дзе на бульбоўніку іржавым
Так ярка вогнішча цвіло,

У гурт сыходзіліся згодна
Аднавяскоўцы ў добры час.
Адно трымцеў аер халодны
Каля ракі, дзе быў папас.

Тады пагойдваўся на хмарах
Маладзічковы паплавок.
Згубіўся недзе на папарах
Мой першы,
мой таропкі крок...

Так, помніцца,—
бы на застолле,
Збіралася усё сяло
Да вогнішча,
што ў чыстым полі
Вясенняй кветкаю цвіло.

## На беразе возера

І сапраўды, упала неба
На светлую маю зямлю.
Дай бераг, як акраец хлеба,
Луской крутою пасалю.

Чаўны вясны маёй далёкай
Плывуць прытомленыя ў снах,
І травы важка і высока
Ладкуюцца на тых чаўнах.

Святло гайдаецца на хвалях,
Трава ад пены расцвіла,
Як рыбка,
ў глыбіні мільгае
Цень самалётнага крыла.

Упала неба — дрогнуў бераг,
На дне застыла вышыня.
Праменні, бы нажы аеру,
Дзірван парэзаўшы, звіняць.



Хоць прымарожвае як след,
Хоць іней колкі дол апарыў,
І месяца ласіны след
Ускочыў у густую хмару,
Ігліцы ападае звон,
Сцяжыну карані ўзрываюць.
Зялёныя дымы сасён
Птушынку дробную гайдаюць.

## Памяць

Не абмінай мяне, трывога,
Не здраджвай толькі, памяць, мне,
Бо не канчаецца дарога
У партызанскай старане.

Пакліч, заранка, неспакойна,
У шыбу ґрукні сувязной.
Пупышкі тояць,
як абоймы,
Ацiхлы неспакой
вясной.

А з сэрца, горача і колка,
Ґалінка вырвецца, як дрот.
І пырснуць лісці, бы асколкі,
Па белым садзе уразлёт.

Не забываецца дагэтуль...
Лязом здаецца маладзік.
Блакаднаю ляціць ракетай
Над нашай вёскай пеўня крык.

Бы перад светам на паверцы,
Сад вечнай памяці цвіце.
Суквецці цэляцца —
у сэрца,
І кожнае
трапляе ў цэль.

## Тонеж

*В. Палтаран*

Тонеж, Тонеж...
Галінка весніць,
Бераг хрустае пад нагой.
Залатое сэрца Палесся
У гняздзечку тугім пад страхой.

Крылы ластавак пырснулі звонка,
Вуж засыкаў,
Птах закрычаў.
Прыхінае песню старонка
Да гарачага
да пляча.

За раку коней выпусці, Тонеж,
Маладыя гады вярні.
У глыбокіх вірах патонуць
Чарнатропаў тваіх ўюны.

Стылым ранкам рукаў туману
Зачапіўся, глянь, за лазу...
Беззаганна і беспадманна
Ў сэрцы песню тваю нясу.

Горла ластаўкі —
спеў твой, Тонеж...
Чарацінка прарэзала тхло...
Апускалі вёдры ў калодзеж,
А да дна не дастаў ніхто.

## Восеньскі матыў

•

Калі зляціць лісток барвовы,
На свет па-новаму глядзіш.
І вецер колерам такі ж,
Як валасы жанчын вясковых.

Калі ручай,
нібы з вясны,
Пачне звінець без перапынку,
Спяваюць тонкія галінкі,
Што ацаліў спакой лясны.

Ты,
восень,—
дабрыня і жорсткасць...
То ўспыхне раптам шэры ліст,
То скоціцца з дажджамі ўніз
Слязы маёй
каменьчык шорсткі.

•

Бяссонне назаўсёды...
Як калісьці,
У сад прыйду да першага святла,
І буду зноў здзіўляцца,
што праз лісце
Я, нібы промень месяца, прайшла.

І ўсім святлом сваім,
начным, азяблым,
Я асвятляю салаўіны сад...
І яблык у руках маіх
не яблык,
А толькі цень яго тугіх зярнят.

Ды песня, быццам сум па нейкім доме,
У засень за сабою павяла.
А хтосьці да мяне ўжо быў,
як промень,
І не дажыў да дзённага святла.

Вось-вось зялёны сад прачнецца...
З галінкі кволай да святла,—
Ажно дрыжыць,—
увысь ірвецца
Вішнёвай завязі пчала.

Туды, дзе ранак жоўтым клінам
Прабіў хмурынку навылёт.
Дзе ўніз струменіцца няспынна
Праменне,
чыстае, як мёд.

## Чаканне

Высотны дом...
Каменны волат
Сабе прастор аблюбаваў.
На вокнах ранак, шызы голуб,
Начныя росы пакляваў.

Святло вітрыны заварожыць,
Зялёнае, нібы трава.
Праз сон уздрыгвае трывожна
У парку гарадскім трамвай.

Што як зазвоняць нечакана
Сняжынкі ранняю парой?
Дзіцячы сад...
Тут гусь драўляны
Не згубіць на зямлю пяро.



Перад табой забытую дарогу
Я разгарну,—
Нібы абрус яна;
Хай сцелецца да светлага парога,
Да хаты,
дзе радня і дабрына.

Няхай ідзе праз гулкія дасвецці,
Губляецца ў далёкіх гарадах.
Няхай з душы жывое слова вецер
Не выкіне,
як птушанё
з гнязда...

## Лекі

Агорне сум душу —
чакай бяду.
Шапне залётны вецер,
як таварыш:
— Цябе па травах сёння павяду,
З якіх бабуля свае лекі варыць.

Табе сягоння корань белы дам,
Сушыцца пакладзі яго на камень...
Схмялелы паміж дрэў ідзе туман
І за галлё трымаецца рукамі.

Не супакоіць сэрца цішыня.
Раса —
пякучыя слязінкі сонца.
Прыпаў кляновы лісцік да акна —
І не здаецца белы свет
бясконцым.

## У вызваленым Бахчысараі

Раз-пораз вецер налятаў,
Нібы палын,
                сухі і горкі.
І дзень, бы немаўля, прыпаў
Да вастрагрудага пагорка.

Уздрыгнуў ты, Бахчысарай,
Калі да Сакалінай Вежы
Ляцела сокалам «ура»,
Вітала ўсё танкістаў першых.

А колькі пройдзена дарог,
І шчыра радуе вяснянка.
На сцежку,
                нібы на парог,
Айва ўзлятае паланянкай.

Хаця, паранены, знямог,
Ды боль схаваў у сумных зрэнках,—
На волю пушкінскі радок
Ляцеў з фашысцкага засценка.

Танкісты заўважалі —
                                скрозь
Асколкі сцены пашчарбілі.
Стаялі ля фантана Слёз
І горкі «Беламор» курылі.

## Летнія верацёны

Праляціць аблачына над полем прыветна,
Блякне кветка ў касе
маладзенькай жняі.
Вось рукою махне —
пусціць бабіна лета
Павуцінне надзей
з верацёнаў сваіх.

Хто здавён паласу
цёплых дзён дажынае,
Хто паспешліва вяжа
тугія снапы?..
Толькі маці ў вяргіневай вёсачцы знае,
Як сякуць руту-мяту
на золку сярпы.

Як звіняць у цішы
верацёны бяссоння,
Як выводзіць бясконцую нітку жыццё,
Як мільгае ў далонях
вірлівая поўня
І як колецца
першых праменняў асцё...

Толькі маці змаўчыць,
каб душу не вярэдзіць,
Слоў балючых кастрыцу
асыпле да ног.

Верацёны гадоў нітку пругкую цэдзяць
Развітанняў,
сустрэч
і далёкіх дарог.

Праляціць аблачына над полем
прыветна,—
Прасла поля
пад ветрам гарачым дрыжыць...
У матуліных пальцах
закружыцца лета
І апошняя слёзка па промню
збяжыць.



Увысь імчаць на ўзлёце дня
Грывастыя аблокаў коні.
А першых промняў мітусня —
Мурашкамі на падваконні.

Руплівых пчол віруе рой,
Шпакі спрачаюцца аб нечым.
Грукоча жылкаю тугой
На скронях у мяне сінеча.

Раса праб'е душу наскрозь,
Каб перад тым,
як сонцу ўзняцца,
Успомнілі пра горыч слёз,
Не развучыліся смяяцца.

## Балада чорнага хлеба

Паэма

Дрэмле хлеб у зямлі
І ў табе, чалавеча.
*Анатоль Вялюгін*

### Частка I

Вясной адзімак позні браўся,
Вазок па сіберу — бягом.
І першы промень наматаўся
На кола лёгкае яго.

І тонкага лядку асколкі
З-пад колаў пырскалі ўбакі.
Стагнаў і біўся вецер золкі
Ў дубцах расхрыстаных ракіт.

Ды раптам —
пошчак блізкіх стрэлаў.
Разлогі колкі боль праняў.
Дарога быццам ускіпела
Пад капытамі у каня.

Сляды бандыцкае пагоні
Шукай па кропельках крыві...
Загнаныя іржалі коні,
І вусны атаман крывіў.



Туман з начы раку адбельваў,
Надзеі кволай ветах згас.
Ці помніш, як цябе расстрэльваў
Бязвусы юнкер першы раз?..

А ты перад салдацкім строем
Стаяў і думаў — гэта ўсё!
Прастор хіснула над зямлёю
Штыхоў дзюбатае асцё.

Абцас аб камень звонка шчоўкнуў.
Стаяў ты мужна,
ў поўны рост.
Тваю агністую лістоўку
Па свету свежы вецер нёс.

А помніш, цэліліся ў сэрца
Махноўцы ў лесе на зары?..
Вірыліся ў вачах, здаецца,
Галіны важкія ўгары.

А трэцім разам цёмнай ноччу,
Калі з рэўкома йшоў дамоў,
Цень за табою следам крочыў,
Да хісткіх цісннуўся платоў.

Каму з тых мужных камісараў,
Хто ў вочы смерці зазірнуў,
Каму з іх невядома зараз,
Што значыць выстрал у спіну...

...Адстала воўчая пагоня,
Над шляхам пачынае днець.
І куля сёння не дагоніць,
І шабля ўжо не паласне.

⁂

А вунь вятрак за небасхілам,
Над роднай вёскай
Як заўжды,

На высахлых марудных крылах
Рыпяць крамяныя гады.

Насыпаў час крывавы ў жорны
З кастроў салдацкіх вугалля.
Не шкадаваў і куляў чорных,—
Іх скрозь насеяна ў палях.



Зямля вясной чакае лекаў,
Зярняты просяць аб сяўбе.
Над растрывожаным палеткам
Вятрыска воблакі скубе.

Світанак поркае нарогам
Палоску хрусткае раллі.
Якія мужныя дарогі
Цябе да поля прывялі?..

Прашытыя начным іржаннем,
Вятры насілі хлопца ў бой,
І білася на шаблі ранне,
Сяброў імчаўся роўны строй.

Тады будзёнаўкай крылатай
З тваёй чубатай галавы
Злятала сонца ў вір заняты
Агню,
        парыву,
                сінявы.



На крыгах дзень сплывае хутка,
Дзядка ажыніцца шчака.

І дым пускае самакрутка
У вечара пусты рукаў.

Ля хаты, як ніколі, тлумна.
Бубніць прыглушана народ.
На вуснах цепліцца —
камуна!
Ідзе да трэціх пеўняў сход.



Падыме ноч
сцюдзёнкі кварту,
Дарогі ўросіцца ручнік.
Чутлівую трымае варту
Над вёскай спраўны маладзік.

Журыўся ветрык летуценны,
Ды новы ўжо свіціўся дзень.
Чапляўся за платы і сцены,
І падпаўзаў да вокнаў цень.

Прамовы гойдаюць газоўку,
Так дымна —
твараў не відно...
А старшынёву гімнасцёрку
Абрэз шукае праз акно.

Прыезджы валасы прыгладзіў:
— Яшчэ хто, землякі,
ў калгас?
Дзядок у самым крайнім радзе:
— Старшынька, запішы і нас...

Мой самы меншы пад Палтавай
Раз'езд казацкі напаткаў.

На акрываўленыя травы
Прылёг сынок мой
і не ўстаў.

Другі ў тачанцы пад Растовам
З «максімам» верным у баях
Зразаў пагоны беляковы...
Упаў ён на агністы шлях.

Служыў на крэйсеры старэйшы,
З семнаццатага —
бальшавік.
Над ім прыбой грывасты плешча
І чаек развітальны крык...

Туга мая гады абросіць,
Ачахне над сынамі час...
Не адмаўляй ты бацьку ў просьбе —
Нас разам запішы ў калгас...



Не гнуцца пальцы у сялянак,
Зара ружовы тчэ сувой.
І пад мужыцкім спісам ранак
Агністы крыжык ставіць свой.

Шарэюць коміны дымамі,
Маладзіка дрыжыць лязо.
Чужынец, скрыпнуўшы зубамі,
Абрэз хавае пад крысо.

У вёску сцежкаю вужынай
Вярнуцца ноччу ўздумаў ён...
А крокі старшыні спружыняць,
З крапіўніка збіваюць звон.



Рыпуча дыхае адрына,
І зерне цепліцца ад сноў.
Бандыт абліў вуглы бензінам,—
Прасцяг уздрыгнуў ад званоў.

Агні звіваліся вуграмі,
І ветах ад агню аслеп.
Тады рыдлёўкамі, баграмі
Вяскоўцы ратавалі хлеб.

Скідала поўнач апранаху,
Збівала полымя ражкі.
І з пекла старшыня без страху
Выносіў дымныя мяшкі.

Разлогі смяглыя параніў
Дзіцячы плач і боль пагроз.
Зярняты першых спадзяванняў
Світанак у сяўню атрос.



Зноў за сялом сяўба крылае
Уздоўж світальных бальшакоў.
І дзень з-за пазухі пускае
На чорную раллю шпакоў.

З сяўні зярняты, бы з калыскі,
Пад мяккія пласты плылі.
У плугі ўпрагаліся вятрыскі,
Жанчынам у падмогу йшлі.

А сонца вогненнага мячык,
Як бач, над полем узляцеў.

У торбе дзеда ў час гарачы
Акрайчык чэрствы успацеў.



Калі апёк зямлю балюча
Зялёнай руні неспакой,
Над старшынёй прасцяг раскручваў
Бялюткіх воблакаў сувой.

Часіну выспелага хлеба
Прымірсціў сейбіт, як у сне,
Калі гарачы колас неба
Над намі звонка паласне.

Бліжэй бярэзнік падступае,
Вось поле ён наўкруг абняў.
Ды раптам пошум налятае:
— Ты ж азірніся, старшыня...

А ён прыціх,
а ён не чуе,
Пра што гамоніць блізкі лес.
За старшынёй бандыт цікуе,
У сэрца цэліцца абрэз.



Якія светлыя сцяжыны
Цябе да поля прывялі?
Які ускраек жураўліны
Душу навекі акрыліў?

Які туман у чыстых росах
Твой чуб пшанічны паласкаў?..
Агнёвак жар асушваў слёзы
І сэрца прагна апякаў.

Чые ж то рукі вышывалі
Сарочку ўзорамі вянкоў,
Чые ж то вусны цалавалі
Пялёсткі цёплых васількоў?..

А дзень захмарыўся ад смутку,
Цякла, бы волава, сляза...
Хоць не было вяроўкі,—
гнуткім
Праменнем варага звязаў.



Гой-гой,
калгасныя дажынкі!
Мільгае месячык сярпа.
А жнеяў лёгкія касынкі
Залётны вецярок трапаў.

Старая песня адгалосіць,
Частушка сыпне слоўцаў боб...
Дымамі жоўтымі калоссяў
Пыхцеў на ўзмежку
Бацька-сноп.

Усмяглым вечарам — застолле.
Вось чарку брыгадзір падняў:
— Як слаўна урадзіла поле,
Ты чуеш гэта,
старшыня?

Ты за сталом вось гэтым сёння,
Твая вось чарка —
каб да дна...
Асцістым хібам блішчуць гоні
Пад цёплай поўняй да відна.

Звіняць прадонныя азёры,
Шчабечуць звонка капяжы,
З зямлёю радасна гаворыць
Мой новы дзень...
Душа дрыжыць,—
На дол асыпле ўраз лістоту,
Азяблай голькай калыхне.
Світанак колецца чаротам,
Чаўны гайдаюцца у сне.
А за далёкім раздарожжам,
А за нябачанай сцяной
Сярпамі ранак наварожыць
Сустрэчу жніўнаю парой
З тым, хто паранены, бяссілы,
Упаў у грозны дзень вайны
На перапёлчыныя крылы
Сярод аціхлай збажыны,
Сярод расхрыстанага ранку
І непажатай цішыні...
Балючую салдата рану
Лагодзяць ціха прамяні.



Павучына-павук цыруе
Між лістоты лапіну тую,
Дзе вядзе карагод святло.

Ніць за ніццю хутка снуецца,
Павучынне прагна кладзецца
На бярозы святое чало.

А над вёскай чарнеюць сецi,
Нерат вогнены студзіць вецер.
Там застрэшак сярпы збярог.

Распаўзліся з брані павучыны
Па разлогах маёй Айчыны,
Па дрыготкіх галінах дарог.



Наляцеў на жытнішча вецер —
Чорна-чорна на белым свеце.
Ранак дрогнуў —
прагнае «піць!»
На патрэсканых вуснах смыліць.
Накалоўся на жоўты колас
І ўпаў,
ацішэлы,
голас.



Прачніся, сынку...
Журавель
Ляціць, натомлены, над хатай.
І сонца, нібы жоўты чмель,
Дрыжыць над снежным Араратам.

На вуснах попел не астыў,
Смугу вятрыска атрасае.
У беларускія жыты
Гюрзою смага запаўзае.

Ты помніш, калі мы, сынок,
Уверх на горныя пляцоўкі
Насілі кожны год пясок? —
Расце там вінаграднік лоўкі.

Віецца па праменнях ён...
Бо ўжо лістоту вецер пеніць,

Бо ўжо ў ствалах ты чуеш звон —
Пад скуркай
цёплы сок струменіць...

У сэрцы кропля зашчыміць,
Арменіі сляза скупая.
На вуснах набалелых —
піць!
Расінкі поле асыпае.



Прачніся, сынку...
На струне
Акын шукае спеў бясконцы.
Змяя маланкай мільгане,
Калодзежа рассекшы донца.

Кумыс сцюдзёны апячэ
Асохлае нябёсаў нёба.
Да вострых дзюнавых плячэй
Апоўдзень туліцца жалобна.

Акын,
ты песню тут пакінь.
Няхай тушканчык
ў полі свішча...
Ля ног —
асколачная стынь
І гільзаў колкае іржышча.

У сэрцы кропля зашчыміць,
Сляза калючая пустыні.
На вуснах перасмяглых —
піць!
На дол расінкі колас кіне.

* * *

Прачніся, сынку...
Тапаліны
Мяцеліць пух над галавой.
І промень крыльцам вераб'іным
Паціху твар казыча твой.

Чарнявы хлопец-кіяўлянін
На полі вусцішным ляжыць.
У вочы перапёлка гляне,—
Засмуціцца ды задрыжыць.

Астылі гоні ў жоўтай скрусе,
Сыноўю смагу не ўталіць.
Расінкі колас ацярусіць,
На вуснах перасмяглых —
піць!

* * *

Зярняты сыпала з прыпола
На жорны сонцавы жняя.
Муку гарачую малола,—
Навокал пах густы стаяў.

Праменні лягуць на іржышча.
Скарынкай браўся бохан той,
Мясілі што на папялішчы,
Салілі матчынай слязой.

Расой гаючай абмывалі,
Крапілі кменам агнявым.
Вятры
той бохан абвявалі
На мяккім ручніку
травы.



Ручаёк у збанку калыхае,
У хусціне бохан нясе...
Ходзіць маці, сыноў шукае,—
Басанож па крамянай расе.

Ходзіць маці-Радзіма па жыце...
Усё выбоіны ды гарбы...
Дзе вы, хлопцы мае, ляжыце,
Дзе калоссі вам чэшуць чубы?..

Злы асколак балюча параніў,—
Пі, сыночак, паветра нагбом.
Гімнасцёрка набракла світаннем
Каля самага сэрца твайго.

Пругкі чуб над ілбом высокім,
Бы спружыністы вінаград,
Падымай галаву сваю, сокал,
Прыціскай да грудзей аўтамат

Я цябе сваім хлебам чорным
І крынічнай вадой ацалю.
Узмужнеў ты ў краіне горнай,
Бараніў аж пад Мінскам зямлю.



Зноў задзумкалі злосна трасіркі,
Паўскідаліся ўзрываў стагі.
Кулямёт ашалелы зіркаў
На атаку калоссяў тугіх.

Ты з казахскіх прастораў, хлопец.
Выпі свежай вады глыток.

Бачыш, маці-Айчына падносіць
Да патрэсканых вуснаў збанок.

Бачыш, хлеба акраец прынесла,
Ручаінку з-пад светлых ракіт...
Ў жыце песня акына ўваскрэсла,
І шраціняць пустыні пяскі.



Сланечнік парашутам жоўтым
Над чорнай кружыцца градой.
Насеннем пырсне, нібы шротам,
На лініі перадавой.

Атака давіцца ў задусе,
Шчацініцца ўкраінскі стэп.
Салдат,
ты рос на Беларусі,
Пайшоў на бой за родны хлеб.

Хлеб са скарынкаю гарачай,
Што да грудзей тваіх прынік...
Байцу чарнявая казачка
Яго ўхавала у ручнік.

Сустрэне куля —
для салдата
Скарынка хлеба, як браня.
І будзе бохан наздраваты
Крывінкі-крошкі ў пыл раняць.

А сябра твой,
што ў стэпе спелым
Калісьці вецер абганяў,

Упаў на поле,
анямелы,
І беларускі дол абняў.

Яго матуля між жытамі
Гукае,
ходзіць зноў і зноў,—
Хоць саламянымі бінтамі
У ранак супакоіць кроў.

### Частка III

Душа раскрыліцца для свята,
І пасталее маладзён.
А неба, як брызент напяты,
І белы свет наўсцяж відзён.

Світаннем зерне налілося,
Праменне ў бункеры звініць.
Ускоціцца прыбой калоссяў,
Такі гарачы —
не крані.

На дрогкай горача пляцоўцы,
Пагорак вунь спіну сагнуў.
Дзень у брызентавай спяцоўцы
Удалеч з-пад рукі зірнуў.

І, задаволены, утому
З далоняў важкую ацёр.
У полі родным,
быццам дома,
Спачні хвілінку, камбайнёр.

Павольна далягляд калыша
Аблокаў белых астравы.

Ігольчаста блішчыць іржышча,
Шапоча вецер палявы.



Твой польны лёс,
далёкі продак,
Нялёгкай спадчынаю мне.
Заўсёды
у душы народа
Калоссям прамяніста днець.

Хай ранак чуйны на прыволлі
Сахой драўлянай правядзе
Крывавы,
важкі шнур праз поле
З мінулага ў наш новы дзень.

Калі на адыходзе лета,
Нам сэрца апячэ адна,
Але галоўная прыкмета,
Што жыта і жыццё —
радня.

Вы жыта спраўна, людзі, жніце.
Праз шыбы цьмяныя гадоў,
Равеснікі мае, зірніце
У вочы сірат і удоў.

Ачахла вузкая палоска,
Але прыпомніцца не раз
І бізуноў прыгонных лёскат,
І грознага паўстання час.

І скрухі боль, калі спазналі
Мы жудасць віселіц, пагроз.

Самотна дзеці ацiралі
З мурзатых шчочак зерні слёз.

Баранавалі межы доўга
Хвароба, голад, гора страт.
Вайна спяшала да парогаў
Зямлянак і пахілых хат.

І прыпадалі зноў да глебы
Штыком працятыя гады,
На самай крэўнай мове хлеба
Вяліся гутаркі тады.

Калі ішоў бядняк без страху
Па крохкай сцежачцы надзей,
І вораг грубую сярмягу
Прышпільваў куляй да грудзей.

Дажынак светлая нагода,
Вяселляў,
хрэсьбін,
свят аблог...
Нам жыта сыпала заўсёды
Радзіма-маці на парог.



Апоўдзень выспелы утомна
Шукае хоць які цянёк.
А ўсё кіпіць, нібыта ў домне,
Такі ўжо выдаўся дзянёк.

У час такі глядзі, прахожы,
Запалку ў полі не палі.
Крычыць сініца — асцярожна!
Снапоў зжаўцелі шынялі.

Па сцежцы хтосьці крочыць шпарка,
Праз поле коціцца вярста.
Незатаптаная цыгарка
Атрэсла попел у жытах.

Каля сцяжыны пераможна
Працяў жыты гарачы ток.
Ірвецца праз вусоў аброжак
Рудога дыму хабаток.

А дым цягнуўся ў неба хціва.
Паспеў вятрыска
наляцець.
І вось агонь сухія нівы
Шалёна топча,
як мядзведзь.

Усмягла залатое лета,
А попел —
сівізной на скронь.
Знаёмы сейбіт з праўдай гэтай:
Дзе жыта —
там заўжды агонь.

Агонь надзей, тугі, дарогі...
Расчараванне, нібы смерч.
Агонь і жыта —
дзве трывогі,
Жыццё —
і нечакана смерць.

З агнём упарты паядынак,
Каб зноўку —
полымя жыцця...
І прадаўжаецца Айчына,
І не канчаецца працяг...



Нялёгка ўправіцца з абладай
Навалы вогненнай,
                калі
Засеяны пякучым градам
На ўлонні жнівеньскім палі.

Яшчэ рывок,
        яшчэ імгненне,—
Квач палымяны ў дол тапчы!
Птушыным трапятлівым ценем
Над сполахамі дзень крычыць.

Вуголля кідка учарнее,
Шрацінкі зыркія мігцяць.
Вось-вось чаканы дождж паспее
Пажар грывасты затаптаць...



Абліта сінявой палата,
У лозах качар адкрычаў.
І забялеў туман халатам,—
На ночы стуленых плячах.

Маладзічок мядзяна-белы
Да бляску навашчыў ставок.
На ўбінтаваны лоб нясмела
Струменіць чуба ручаёк.

Здаецца, апякае ложак...
На боль апаленых грудзей
Смугу апоўнач асцярожна,
Бы медсястрыца,
        пакладзе,

На вуснах перасмяглых колка...
З крынічанькі — хаця б глыток.
Нясе ў палату перапёлка
У дзюбцы росны каласок.



Ты ляці, ты ляці, перапёлка,
Птушка светлых і шчырых спагад.
Пралятай жа над восенню колкай,
Хоць сячэ тваё пер'ечка град.

Ты плывi над завеяю белай,
Над снягамі адчай не крычы.
Прынясі, перапёлачка, смела
Ад вясновай заранкі ключы.

Адагрэем гняздзечка трасцяна
Мы гарачаю песняй тады.
Ацаліць табе сэрца світанак,
Верне спеў маладыя гады.

Ярына нашых слоў залатая
Сыпле зерне ў засекі надзей.
Прылятае, заўжды прылятае
Перапёлачка да людзей.



Засінеюць пралескі у снах,
У палаце развеецца скруха.
Ціха раніца да акна
Падыходзіць і будзіць: паслухай!

Лёд сумнення, скрышыся, сплыві,
Звонкі жаўранак цепліцца ў небе.

Пераможна спявае: жывы!
Светла соль праступае на хлебе.



Вярбінка лапкай кацяняці
Ледзь дакранецца да шчакі.
Старэнькая чакае маці,
На лаву сцеле ручнікі.

Яму ж ні сна і ні спачыну,
Зноў дзядзька-ветах з вышыні
Гарачых зорак жменю кінуў
Са шчодрай, поўненькай сяўні.



Зямля абветрала трывогай,
Зямля адтаяла вясной.
Прабіла зімнюю дарогу
Слязою ручайка скразной.

Трава пагорак рэжа ломка,
І ў хаце ўседзіш ты хіба,
Калі услед за аграномкай
Ідзе праз поле ўжо сяўба.

Зямлі варочаюцца скібы,
Абмяк пад плугам далягляд.
Хлапчына усміхнуўся, нібы
Налускаў з сонца ён зярнят.

Хай ніва рунню акрыяе,
Хай усміхнецца дол вясне,
А золак выгары змывае,
Вуголле чэзне ў баразне.

Міг нараджэння непаўторны,
Расток на волі ўжо акрэп.
Наш хлеб завецца ў людзях чорным,
Наш самы прамяністы хлеб.

## Змест

### I



### II

На белорусском языке

Валентина Михайловна Ковтун

НА ВЗЛЕТЕ ДНЯ

Рэдактар І. І. Калеснік. Мастак Ул. В. Картовіч. Мастацкі рэдактар М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар А. Т. Глушчанка.

ИБ № 186

АТ 10858. Здадзена ў набор 29/VII 1976 г. Падп. да друку 23/XI 1976 г. Тыраж 2500 экз. Фармат $70\times100^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 3,87. Ул.-выд. арк. 3,29. Зак. 414. Цана 34 кап. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4. З набора ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарні выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79, друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржкамвыдата БССР. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Зак. 665.

**Коўтун В.**

К73 На ўзлёце дня. Вершы і паэмы. Мн., «Маст. літ.», 1977.

96 с. з іл.

Другі зборнік Валянціны Коўтун склалі вершы пра наш час і справы сучаснікаў. Тэматыка паэм — вытокі мужнасці і нязкоранасці нашага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Многія творы напісаны на фальклорнай аснове.

**К** $\frac{70403\text{-}015}{М\ 302(05)\text{-}77}$ 49-77 **Бел 2**